# НАША СВАБОДА

№31 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

13 ЧЭРВЕНЯ 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





стар.3

# Ермошин никуда не поехал

Михаил ЧЕРНЫЙ

**Визит премьер-министра Беларуси в Украину был перенесен на более поздний срок.**

9 июня в Одессе руководители правительств Украины, Беларуси и Молдовы должны были обсудить свои (в основном связанные с транзитом грузов по территории Украины) торгово-экономические отношения. Переговоры начались в отсутствие белорусского премьера Владимира Ермошина, которого ждали с минуты на минуту, но он так и не приехал. Пресс-служба премьер-министра прокомментировала это тем, что не до конца согласованы отдельные позиции по некоторым вопросам встречи.

Белорусская сторона утверждает, что встреча Владимира Ермошина с коллегами Виктором Ющенко и Думитру Брагишем всё-таки состоится после окончательного согласования позиций сторон.



Напомним, что НАША СВАБОДА в прошлом номере писала о скандальном высказывании В.Ермошина в адрес соседей-украинцев во время своего визита в Гродненскую область 2 июня. Председатель Совета министров, рассказывая о перспективах создания прозрачного коридора по перевозке молдавской сельхозпродукции в Беларусь и белорусской – в Молдову, довольно вульгарно для премьера обмолвился о «боксерских перчатках, в которых белорусам придется прорываться в Молдавию», так как «хохлы нас будут обдирать».

После таких высказываний в адрес соседей премьер собирался поехать в Одессу на встречу с руководителями правительства Украины и Молдовы. Но в последний момент, видимо, одумался и посчитал за лучшее перенести визит, рассчитывая, что слова со временем забудутся. А решать вопрос транзита все равно придется. ■

# Страляніна па сваіх у чужой краіне



Фота Ул.ШЛАПАКА

● Шлагбаум на пад'ездзе да тэрміналу памежнага і мытнага кантролю на беларуска-ўкраінскай мяжы

Міхась КАРПОВІЧ
Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

**Беларускія мытнікі парушылі ўкраінскую мяжу са зброяй у руках. Экстрэмальную сітуацыю на мяжы Беларусі і Украіны стварылі ўзброеныя супрацоўнікі мытні «Заходні Буг». Захапіўшыся сапраўднай пагоняй за КамАЗам, які вёз бульбу, яны перасяклі мяжу ў раёне ўкраінскай вёскі Гута (Валынская вобласць). Пальба па грузавіку з пісталета Макарава і аўтамата Калашнікава працягвалася і на ўкраінскай тэрыторыі, пакуль адмысловая група не затрымала баявітых беларускіх мытнікаў.**

У ноч з 2 на 3 чэрвеня аўтамабіль КамАЗ з прычэпам, які меў гродзенскія нумары, не прыпыніўся перад адкрытым шлагбаумам беларускай мяжы і рушыў праз мост на тэрыторыю Украіны. Супрацоўнікі мытні пачалі страляніну з аўтамата АКСУ яшчэ на тэрыторыі Беларусі. Магчыма, што кіроўца не чуў стрэлы па колах прычэпа, інакш гнаў бы машыну haўцёкі.

Існуюць дзве версіі тых падзей, што адбываліся потым. Паводле адной з іх, кіроўца вылез з кабіны, калі прабітыя пулямі колы безнадзейна заселі ў размяклым ад дажджу грунце дарогі. Мытнікі, пагражаючы табельнай зброяй, запатрабавалі вярнуць груз на беларускую тэрыторыю, дзеля чаго шафёру дазволілі пашукаць які-небудзь буксіровачны сродак. Вартавы ў гэты час КамАЗ на чужой тэрыторыі застаўся адзін з супрацоўнікаў беларускай мытні.

Затрыманы вярнуўся не адзін. З ім былі людзі ў цывільным і ў міліцэйскай форме Украіны. Пачалося новае разбіральніцтва, падчас якога разгарэлася кулачная бойка з відавочнай перавагаю над «чужаком» з беларускай мытні. Выратаваў яго толькі напарнік – зноўку пры дапамозе аўтамата. Разрадзіўшы з яго некалькі патронаў стрэламі ўгару, мытнік напалохаў удзельнікаў інцыдэнта і вызваліў сябра.

Другую версію прадставіў кіраўнік прэс-службы памежных войскаў Украіны Анатоль Самарчанка. Па яго словах, жыхары вёскі Гута паведамілі ўкраінскім памежнікам, што недзе ў 1-2 кіламетрах ад мяжы ў 9 гадзінаў раніцы была абстраляная аўтамашына з прычэпам. На месца здарэння выехала «трывожная група», у склад якой увайшлі супрацоўнікі Службы бяспекі Украіны (аналаг беларускага КДБ), а таксама міліцыі і пракуратуры.

Як сцвярджае А.Самарчанка, кіроўцу ўдалося ўцячы ад беларускіх мытнікаў. Там застаўся толькі «трафей» у выглядзе прычэпа з бульбай. Кіроўца кінуў яго, бо не мог далей цягнуць – у прычэпа былі прабітыя колы.

Па словах кіраўніка прэс-службы, «трывожная група» затрымала супрацоўнікаў беларускай мытні ля гэтага прычэпа. У іх канфіскавалі зброю – пісталет ПМ і аўтамат АКСУ з патронамі. Там жа знаходзіўся джып, на якім вёўся пераслед.

Як бы там ні было, але факт застаецца фактам. Незаконнае парушэнне дзяржаўнай мяжы, тым больш са зброяй у руках – гэта істотнае злачынства. Ужо ўтвораная адмысловая камісія, якая мусіць правесці двухбаковае расследаванне і даць канчатковую ацэнку дзейнасці мытнікаў. І нават калі мірны груз сапраўды апынецца кантрабандным, то усё ж такі пераследвальнікі атрымаюць як мінімум строгую вымову – калі не звальненне. Дарэчы, у шмат якіх краінах такіх неадукаваных «смельчакоў» судзяць як правакатараў добрасуседства.

А пакуль што начальнік беларускай мытні «Заходні Буг» Вячаслаў Асінцаў вымушаны быў афіцыйна прынесці прабачэнні ўкраінскаму боку за сваіх падначаленых. У сваю чаргу Ратненскі РАУС Валынскай вобласці, які прыняў адпаведную пастанову па гэтым памежным канфлікце, не ўзбуджаў крымінальную справу супраць грамадзянаў суседняй дзяржавы.

Дарэчы, радыё «Свабода» паведаміла пра практычна аналагічны выпадак, які адбыўся на беларуска-ўкраінскай мяжы яшчэ 28 траўня, калі беларускія памежнікі пераследавалі аўтамабіль грамадзяніна Украіны і таксама перасяклі мяжу суседняй дзяржавы.

Кіроўца аўтамабіля нібыта адмовіўся спыніцца па патрабаванні памежнікаў каля вёскі Лелікава і рушыў у бок дзяржаўнай мяжы Украіны. Памежнікі накіраваліся за ім і таксама пачалі страляніну.

Украінскі бок сцвярджае цяпер, што беларускія памежнікі трапілі на тэрыторыю іхняй краіны на глыбіню 3 кіламетры. Паколькі беларуска-ўкраінская мяжа на мясцовасці не маркіраваная, беларускі бок не прызнае факта парушэння мяжы Украіны. Паводле версіі беларускіх уладаў, памежнікі дзейнічалі абгрунтавана, бо аўто, якое перавозіла кантрабанду, урэшце было затрыманае. У адносінах да кіроўцы, грамадзяніна Украіны, заведзеная крымінальная справа. У сваю чаргу, кіроўца сам ужо падаў у пракуратуру скаргу на дзеянні беларускіх памежнікаў. ■



## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **У Магілёве аб'яўленая ў свабодны продаж уласнасць, канфіскаваная ў былога міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Васіля Лявонава.** Нагадаем, што ён быў асуджаны Вярхоўным судом Беларусі на 4 гады пазбаўлення волі нібыта за крадзяжы і злоўжыванні ўладай падчас працы на пасадзе міністра. Крымінальная справа В.Лявонава, на думку многіх назіральнікаў і праваабаронцаў, насіла палітычны характар і была абумоўлена асабістай непрыязнасцю да яго з боку вышэйшай службовай асобы дзяржавы. Аб'яўленне камісіі па канфіскаванай маёмасці апублікавалі афіцыйныя магілёўскія газеты. Згодна з гэтым дакументам, прадаецца дача ў вёсцы Міхайлаўка Круглянскага раёна Магілёўскай вобласці. Дом з лазняй, гаражом, гаспадарчай пабудовай і падвалам ацэнены прыкладна ў 4,5 тысячы долараў ЗША.

■ **Агульная сума запазычанасці па заработнай плаце прадпрыемстваў і арганізацыяў Магілёўскай вобласці перавысіла 2,5 мільярда беларускіх рублёў і склала 13,5% у фондзе заработнай платы.** У параўнанні з папярэднім тыднем сума запазычанасці павялічылася на 17,5%. Больш за 880 мільёнаў рублёў доўгу прыпадае на зарплату, выплата якой пратэрмінавана больш чым на 30 дзён. Работнікі 50 калгасаў і саўгасаў Магілёўскай вобласці ў апошні раз атрымалі заработную плату ў студзені.

■ **Швейцарскія ўлады рыхтуюцца прад'явіць абвінавачванне ў карупцыі дзвюм дочкам першага расійскага прэзідэнта Барыса Ельцына.** Пра гэта паведаміў учарашні нумар часопіса *Newsweek*. Таццяна Дзьячэнка і Алена Акулава фігуруюць сярод 14 асобаў, якія маюць дачыненне да справы вядомай швейцарскай кампаніі «Мабетэкс» – яна ў свой час займалася рэканструкцыяй Крамля. Днямі генеральны пракурор Жэневы Бернар Бартоса паскардзіўся на адсутнасць супрацоўніцтва з расійскім правасуддзем. У інтэрв'ю італьянскай газеце *Corriere Della Serra* ён зазначыў, што за публічнымі заявамі пра гатоўнасць да дыялога, «прасторы для супрацоўніцтва няма ніякай». У першую чаргу Б.Бертоса мае на ўвазе справу «Мабетэкс».

## НАДВОР'Е

Віцебск +27
Мінск +25
Магілёў +28
Гродна +29
Брэст 31
Гомель +28

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»



980

 



# Брэст спазняецца атрымаць дапамогу ЕС

Надзея СВЯТЛІЧНАЯ

**Цяперашні чэрвень у Брэсце можна назваць месяцам жывой актыўнасці экспертаў Еўрапейскага Саюза, якія каардынуюць праекты па трансмежным супрацоўніцтве ў рамках праграмы TACIS. Зусім нядаўна адбылася ацэначная паездка дэлегацыі з універсітэта нямецкага горада Карлсруэ, тамтэйшага ведамства садзейнічання эканамічнаму развіццю і Германа-Беларускага дома. Яны бралі ўдзел у абмеркаванні праекта па стварэнні інфармацыйна-аналітычнай службы для рэгіёнаў Брэст (Беларусь) і Бяла-Падляска (Польшча).**

На наступным тыдні Еўракамісія ў Брусэлі вызначыць генпадрадчыка па выкананні праекта маніторынга чысціні вады ў басейне ракі Заходні Буг. А ўчора ў Белавежскай пушчы пачаліся кансультацыі па шэрагу магчымых новых праектаў праграмы *TACIS* з удзелам кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў Беларусі і Польшчы.

Хаця беларуска-польская мяжа па-ранейшаму захоўвае знешнюю прывабнасць і не змяншае патокі пасажыраў і турыстаў, аднак выклікае ўсё больш недавер і непаразуменне ад суседзяў. Напрыклад, у першым квартале гэтага года польскія мытнікі затрымалі на мяжы Люблінскага ваяводства каля 100 тысяч літраў алкаголю, 150 тысяч пачак цыгарэтаў, 11 тысяч кампакт-дыскаў і 86 царкоўных абразоў – усяго на суму больш за 2 мільёны долараў.

Як паведамляе польская *Gazeta Wyborcza*, у апошнія дні траўня польскім бокам выкрыта кантрабанда 20 тысяч літраў спірту коштам амаль паўмільёна долараў. Перавозчыкам грузу на аўтамабілі МАЗ значылася беларуская фірма. Яе дакументы, аднак, былі «ліпавыя» – быццам бы ў бочкі быў заліты растваральнік для фарбаў.

Брэсцкая мытня «Заходні Буг», па словах яе начальніка Вячаслава Асінцава, ужо мае больш за паўтысячы фактаў адміністратыўна-мытных парушэнняў. За студзень-травень на пункце пропуску «Брэст-Цэнтральны» затрымана 252 іконы, 131 з якіх перададзеныя абласному краязнаўчаму музею як культавыя прадметы вялікай мастацкай каштоўнасці.

Дасягненні фіскальнай дзейнасці мытнікаў нельга, аднак, пераацэньваць. 500 чалавек ěе супрацоўнікаў на 3,8 мільёна грамадзянаў, якія перасякаюць граніцу, а таксама 1 мільён 200 тысяч адзінак транспарту, маюць дачыненне толькі да вярхушкі айсберга кантрабанды. Пры працы з перагрузкай, без павелічэння колькасці прапускных пунктаў, капітальнай рэканструкцыі «Варшаўскага маста» і тэхнічнага пераасначшэння астатніх, нельга спадзявацца, што перанос шэнгенскай граніцы з Одэра на Буг абыдзецца для Беларусі спакойна.

Еўрасаюз, абяцаючы прыняць у сваю супольнасць Польшчу (хутчэй за ўсё гэта адбудзецца ў 2005 годзе), не адмаўляе важную ролю брэсцкага рэгіёна, разглядае яго як будучыя вароты паміж пашыраным Еўрасаюзам і краінамі СНД. Таму запланаваныя ўнушальныя аб'ёмы інвестыцыяў як у Польшчы, так і ў Беларусі.

Захад найперш турбуе слабая памежная інфраструктура дзвюх суседніх краінаў, з-за чаго ўтвараюцца «тромбы» з людзей і аўтамашынаў на пераходах. Не менш праблемаў і са станам навакольнага асяроддзя ўздоўж польска-беларускай дзяржаўнай мяжы. Але найбольш экалагічна небяспечным прадстаўляецца Заходні Буг. Выпадковыя атрутныя выкіды ў яго могуць у адначассе стварыць катастрофу ў Брэсце і Варшаве, для якіх рака – асноўная сістэма водазабору.

Дарэчы, бюджэт праекта па маніторынгу чысціні вады ў Заходнім Бугу ацэнены ў 2 мільёны еўра (каля 1,9 мільёна долараў), што вызначае яго катэгорыю ў праграме *TACIS* як рэгіянальную. Існуюць таксама вышэйшыя – нацыянальныя, і ніжэйшыя – спецыялізаваныя. З апошніх (яны фінансуюцца ЕС да 200 тысяч еўра кожны) на Брэстчыне былі рэалізаваныя два – у Пінску (на заводзе «Камертон») і ў Доме міласэрнасці Таварыства Чырвонага Крыжа), а таксама ў Брэсце (чыгуначны вузел, цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва, політэхнічны інстытут, цэнтр занятасці насельніцтва).


Фота ІЕХ/PhotoMedia

Беларуская чыгунка чакае зменаў

Некалькі магчымых спецыялізаваных праектаў у рэгіёне не атрымалі фінансавання, бо Брэсцкі аблвыканкам не вызначыў сваю групу спецыялістаў па іх падрыхтоўцы. Канструктыўная заяўка па праекце «Еўрамяжа ў Брэсце» была позна пададзеная і патрапіць на разгляд Еўракамісіі толькі праз 5 месяцаў.

Няўважлівасць да магчымасцяў атрымаць грашовыя інвестыцыі ЕС ягоныя эксперты адносяць да ліку спецыфічных праблемаў цяперашніх уладных структураў у Беларусі. Людзі не звыкліся пільна весці дакументацыю. А ў Еўракамісіі жорсткая бюракратыя. Ні аднаго еўра не атрымае той, хто просіць, калі праектная прапанова мае нават дробныя памылкі.

Пра тое, што Брэст спазняецца ў атрыманні дапамогі ЕС, будзе ісці размова на згаданым семінары ў Белавежскай пушчы. На працягу 4 дзён эксперты Еўрасаюза паспрабуюць зблізіць узаемапаразуменне паміж беларускай і польскай дэлегацыямі. Іх увага будзе адрасаваная да ўзгодненай палітыкі ў вырашэнні новых тэрміналаў «Казловічы» і «Кукурыкі», што пакуль не вырашылі праблему чэргаў.

У спецыялістаў з Германіі (гэтай краіне, як паўнавартаснаму чальцу ЕС, перададзеныя функцыі каардынатара дзеянняў і распарадчыка фондаў рэгіянальных беларуска-польскіх праектаў *TACIS*) існуе меркаванне, што паміж Варшавай і Брэстам мусіць быць пабудаваная хуткасная аўтастрада і новы мост цераз Буг. У сваю чаргу ў чыгуначнікаў перашкодай па-ранейшаму застаецца шырыня каляіны, розная па два берагі Буга, з-за чаго даводзіцца мяняць колы на ўсіх пасажырскіх і грузавых цягніках. Словам, звыклая да камфорту Еўропа згодна падзяліцца капіталам, але па даўно выпрацаваных правілах дакладнай ашчаднасці. Уразумелыя да гэтага палякі ўжо атрымліваюць больш як па 80 долараў замежных інвестыцыяў у сярэднім на кожнага жыхара. Беларусы не маюць і дзесятай долі такога. Ці зможам дамовіцца на лепшае з ЕС у чарговы раз, пакажуць вынікі міжнароднай сустрэчы ў Белавежскай пушчы. ■

НАЗІРАЛЬНІК

# Найноўшы падзел працы


Фота Ул. ШЛАПАКА

Самую адказную і цяжкую працу беларускія мужчыны, як заўсёды, давяраюць сваім жанчынам

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Пасажыры аўтобуса, які рэгулярна курсіруе паміж Мінскам і Беластокам, – гэта звычайна жанчыны, у большасці «чаўночніцы». Мужчынаў сярод іх амаль няма.**

І ў гэтым няма нічога дзіўнага, бо цяжкая праца – гэта і ёсць тое адзінае сацыяльнае дасягненне нашага грамадства ў адносінах да жанчынаў. А транспарціроўка вялізных «бізнес-торбаў», праезд у аўтобусе пры мінімуме камфорту, спрэчкі з мытнікамі – усе гэта патрабуе вельмі значных фізічных ды псіхалагічных намаганняў. Карацей, такую сітуацыю рэдкі мужчына вытрымае. Не кажучы ўжо пра тое, што мужчыны проста не здольныя гандляваць кантрабанднымі цыгарэтамі ды гарэлкай на падыходах да гарадскога рынку. Прынамсі таму, што пабагацейшы за апошнія гады палякі сталі вельмі пераборлівымі і не надта кідаюцца гэтае пітво купляць. Таму гандлярцы трэба ўлагоджваць патэнцыйнага пакупніка, упрошваць «пана» купіць тавар менавіта ў яе. Маўляў, у роднай Беларусі чакаюць галодныя дзеткі.

Такія назіранні выклікаюць невясёлыя думкі, але ж дазваляюць зразумець і ролю мужчынаў у развіцці беларускага «бізнесу». «Мужчынкі» сядзяць у цяпле, сытыя ды ў добрым настроі. І прымаюць законы, у адпаведнасці з якімі павінна развівацца беларуская эканоміка. Але не развіваецца. Таму жанчыны змушаныя шукаць заробак на «блышыных рынках» чужых гарадоў і замежных краінаў.

Такі вось падзел працы. Аб гэтым, звычайна, не задумваюцца, але ж задумацца варта. Калі мы гаворым пра беларускіх бізнесоўцаў, то маем на ўвазе не нейкіх там Морганаў і Ракфелераў, якім няма куды грошы дзець. А тых, хто гандлюе на рынках, хто, як чаўнок, снуе паміж Беларуссю і далёкім ці не вельмі далёкім замежжам, каб што-небудзь там прыкупіць і тут прадаць з выгадай для сябе. Хацелася б дадаць, «...і дзяржавы», але дзяржава ў нас такая, што ўсё золата, якое трапляе ў яе рукі, ператварае ў «другасны прадукт».

Акрамя гандляроў, ёсць яшчэ асобы, што займаюцца ці спрабуюць займацца вытворчасцю або аказаннем сэрвісных паслугаў. Гэтых людзей налічваецца каля паўмільёна. У свой час усе яны працавалі ў дзяржаўным сектары. Шлях у бізнес у кожнага быў свой. Спачатку, калі савецкія ўлады абвясцілі аб пераходзе да шматукладнай эканомікі і легалізавалі кааператыўную ды індывідуальна-працоўную дзейнасць, у бізнес рушылі былыя «цэхавікі», прасунутыя камсамольцы ды маладыя навукоўцы. Бо ўсім надакучыла жыць на адну не вельмі вялікую зарплату. Пасля, па меры таго, як эканоміка апускалася на калені, у бізнес «выціскаліся» людзі з навукова-даследчых інстытутаў, вышэйшых навучальных установаў і гэтак далей. Адначасова з імі на ўласніцкай ніве пачалі шчыраваць і асобныя кіраўнікі вытворчасці, перш-наперш эканамісты. На трэцім этапе ўзрушыліся шэрагоўцы. Бо, нягледзячы на ўсю афіцыйную рыторыку, прадпрыемствы ваенна-прамысловага комплексу, якіх на Беларусі зашмат, рэзка скарацілі аб'ёмы прафільнай прадукцыі, а так званы шырспажыў не змаглі давесці да рынку. Не змаглі, таму што эканоміка краіны адкрылася, і ў Беларусь хлынула мора танных «заморскіх» тавараў, хоць якасць іх была вельмі адноснай. Але не заўсёды. Бо што тычыцца, прыкладам, кветак, то гэта былі ўжо не чэзлыя гваздзікі, што канчаткова гублялі таварны выгляд унутры аб'ёмістых чамаданаў «асобаў каўказскай нацыянальнасці», але ружы з самае Галандыі. А віно, брэндзі, шампанскае прывозілася з Францыі ды Германіі.

З улікам гэтага трэба сказаць, што бізнес, прынамсі, рынак, саслугаваў і простаму чалавеку. Бо калі раней, як гэта было дзесяць гадоў таму, каб прыдбаць два пачкі «Астры» ці «Беламору», трэба было прастаяць дзве-тры гадзіны ў чарзе да білетных касаў мінскага стадыёна «Дынама», дзе толькі і прадаваліся тытунёвыя вырабы – то цяпер якасныя цыгарэты можна набыць, і дастаткова танна, на кожным рагу.

Калі ж зазірнуць у больш далёкую даўніну, то я заўсёды прыгадваю абставіны, у якіх мне давялося забіраць з радзільнага дома жонку з толькі народжанай дачкой. Справа была ў студзені, да таго ж у панядзелак. Зразумела, Камароўка была закрытая, а ў кветкавых крамах мне прапанавалі адно цыкламены ў гаршках. Так і прыйшлось купляць гаршчок, каб зрэзаць некалькі кволых кветачак.

Рынак, хай сабе і такі тлумны як беларускі, у імгненне вока ўсё змяніў. Упершыню ў жыцці агромністай большасці пакупнікоў з'явілася магчымасць выбару паміж дарагім і танным, выбару па якасці, гусце, па патрэбах. Але ж не бывае так, каб добра было для ўсіх.

Тыя, каму не было добра, хутка забыўся, што дэфіцыт – гэта горшае зло, чым высокія цэны, абралі нам уладу, якая паабяцала, што ўсім будзе добра. Рабіць дабро ўлада пачала з паслядоўнага задушэння бізнесоўцаў, якіх абразліва назвала «вашывымі блохамі». У выніку рынак стаў пусцець, а цэны не знізіліся, а падскочылі ўгару.

Цалкам немагчымая сітуацыя, каб усім было добра. Але наадварот, калі ўсім кепска, – такое бывае часцяком. У нас жа, як вучыць гісторыя і абяцае сённяшні дзень, так толькі і бывае.

Узяць, прыкладам, першую вялікую нацыяналізацыю, што адбылася пасля перамогі камуністаў у грамадзянскай вайне. Як падлічылі эканамісты, у выніку яе рабочы чалавек атрымаў менш за долар прыбаўкі да сярэднямесячнай зарплаты. А ўсё вялізнае багацце перайшло да дзяржавы. Калі называць рэчы сваімі імёнамі – да чынаяўства, да тых, каго звалі «наменклатурай». Яна нахапала так многа, што гэтага дабра хапіла для яе амаль на 80 гадоў панавання над намі. А сёння? Што яна думае нахапаць, нацыяналізуючы камерцыйныя кіёскі? Памперсы ды снікерсы? Адным словам, глупства, пане дабрадзею, як казаў некалі герой нашага знакамітага песняра. ■



 

